*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№9 кастрычнік 2011***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***



**Апазіцыйныя і праваабарончыя арганізацыі ўзгаднілі спіс палітзняволеных у Беларусі.**

**У іх лік уваходзяць Мікалай Статкевіч, Дзмітрый Бандарэнка, Андрэй Саннікаў, Алесь Бяляцкі, Мікалай Аўтуховіч, Дзмітрый Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Павел Севярынец, а таксама Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок і Аляксандр Францкевіч. Яшчэ трое — Яўген Васьковіч, Павел Сырамалотаў і Арцём Пракапенка — асуджаны за спробу падпалу будынка КДБ.**

# Алесь Бяляцкі. Партрэт на фоне кратаў

***“Спачатку яны цябе не заўважаюць. Пасьля сьмяюцца зь цябе. Пасьля змагаюцца з табою. А пасьля ты перамагаеш”.***

Гэта вядомы выраз Махатмы Гандзі. ¨н апісвае шлях кожнага, хто разумее, што ўласная годнасьць ня зьдзейсьненая, пакуль прыніжаецца годнасьць іншых. Ствараючы партрэт Алеся Бяляцкага, я іду ўсьлед за словамі гэтага важнага для мяне чалавека. Побач з ягонай выявай я хацела б разьмясьціць і свой малюнак.



Мы размаўлялі зь Алесем Бяляцкім для праграмы “Бацькі і дзеці незалежнасьці” за месяц да ягонага арышту. Часу было крытычна мала, каб апісаць апошнія 30 гадоў. Але ў Бяляцкага ёсьць выдатная здольнасьць: у кожнай асобнай дэталі ён бачыць усю карціну цалкам; за кожнай датай і падзеяй – тыя рухаючыя сілы, якія мяняюць гістарычныя эпохі і сьвядомасьць людзей.

Праз ўласную біяграфію ён здолеў у некалькі штрыхоў стварыць пераканаўчую панараму таго, што, чаму і як адбывалася і адбываецца з намі. Напэўна, гэта было ня так і складана, бо ў большасьці з падзеяў ён удзельнічаў асабіста. Але захапляла абсалютна бліскучая інтэлектуальная разьняволенасьць, зь якой ён апэраваў складанымі сацыяльна-палітычнымі фэноменамі, спалучаў факты, тут жа іх аналізаваў і прыходзіў да нестандартных высноваў. Дзякуючы Бяляцкаму адасобленыя паміж сабою падзеі ўтварылі для мяне пасьлядоўную повязь, змацаваную руплівай працай, верай і адданасьцю іх удзельнікаў, у тым ліку і Алеся Бяляцкага.

Алесь Бяляцкі: “Немагчыма, каб на пустым полі адразу вырас добры ўраджай. Гэта поле трэба добра ўгнойваць, працаваць зь ім, камяні выбіраць…. А тое, што пакінула на ім камуністычная ўлада пасьля 70 гадоў у Беларусі можна назваць такой выпаленай зямлёй...Былі часы ў канцы 80-х гадоў, калі мы літаральна ведалі адзін аднаго ў твар… А на пачатку 90-х гэта ўжо хутка зьмянілася –зьявіліся тысячы і дзясяткі тысяч… Мы займелі ўстойлівую падтрымку ў грамадзтве. Фактычна шмат у чым летуценны рух, які абапіраўся толькі на нейкія аскабалкі, што засталіся ад ранейшых традыцый палітычных, культурных, займеў вельмі цьвёрды грунт. Цяпер мы маем сваіх 25-30 працэнтаў падтрымкі.. І менавіта тады яны высьветліліся, менавіта тады яны фармаваліся. І гэта не мала. Гэта мільёны людзей, якія адназначна бачаць Беларусь іншай”.

У пошуках аднадумцаў у 1982-м Алесь пазнаёміўся з менскімі Майстроўцамі – Вінцуком Вячоркам, Сяргеям Сокалавым-Воюшам, Сяргеям Запрудзкім, Алесям Сушам… Тагачасныя ўмовы яшчэ не дазвалялі маладым публічна заяўляць пра свае палітычныя перакананьні. Праз сумесныя сьпевы і паганскія карагоды майстроўцы гуртавалі вакол сябе людзей і такім чынам легалізавалі сваю дзейнасьць. Што, аднак, не пазбаўляла іх ад увагі КДБ. Але ўнутры гуртка існавала таемнае кола тых, хто ўжо тады ставіў перад сабой палітычныя задачы -- стварэньне нацыянальнай дзяржавы, укараненьне прынцыпаў дэмакратыі і правоў чалавека. Па словах Бяляцкага, першыя спробы гэтага пакаленьня сфармуляваць сваю палітычную пазыцыю адбыліся менавіта тады, а маладзевы рух разьвіваўся па адмыслова распрацаваным “пляне”.

Алесь Бяляцкі: “Мы прынялі пастанову разьбегчыся па няўрадавых арганізацыях і стварыць іх. Гэта была рэальная пастанова і кожны мусіў там працаваць. І мы разьбегліся і стварылі…”

У сьнежні 1986 Алесь Бяляцкі разам з сябрам яшчэ студэнцкіх часоў Анатолем Сысом заснавалі “Тутэйшых”. Сытуацыя мянялася настолькі імкліва, што патрэба камуфляваць нацыянальнае адраджэньне культурніцкай актыўнасьцю зьнікла вельмі хутка. Праз два месяцы “тутэйшых” ужо было ўжо 100 чалавек, а за наступны 1987-ы год сетка арганізацыі пакрыла ўсю Беларусь.

“Тутэйшыя” былі маленькай дзяржавай Алеся Бяляцкага абралі старшынём, Анатоля Сыса – адказным за паэзію, Адаму Глёбусу аддалі прозу, а іншыя роды літаратуры таксама займелі сваіх кіраўнікоў.. З такім жа посьпехам яны маглі б падзяліць паміж сабою міністэрскія партфэлі, пошту, тэлефон і тэлеграф. У праграмным Маніфэсьце “Тутэйшыя” супрацьпаставілі сваю свабодную творчасьць сэрвільнай прадукцыі савецкіх “майстроў слова”. Гэта ўжо была палітычная заява: адмаўляючыся забясьпечваць патрэбы камуністычнай дзяржавы літаратары нібыта заяўлялі пра магчымасьць існаваньня дзяржавы іншай. Хаця Алесь кажа, што незалежнасьць тады ўяўлялася фантастыкай.

Алесь Бяляцкі: “я тады ў сваім жыцьці ня думаў, што дажыву нават да таго часу, калі Беларусь будзе незалежнай”

Пад кіраўніцтвам Бяляцкага “Тутэйшыя” хутка займелі лідэрскі голас у тагачасным моладзевым руху. Яны бралі ўдзел у першых незалежных мітынгах ужо ў 1987 годзе. А ў сьнежні гэтага ж году на Першым вальным Сойме Канфэдэрацыі беларускіх суполак, на які сабралася каля 100 моладзевых арганізацый, зыніцыявалі стварэньне аб’яднаньня беларускай моладзі. Прынятая на сойме праграма палітычных пераўтварэньняў лягла ў аснову будучай праграмы БНФ.

У 1988 Алесь Бяляцкі ўжо быў для ўлады чалавекам, зь якім варта і трэба змагацца. Пад ціскам камуністычнага партыйнага кіраўніцтва яго тройчы адлічалі зь асьпірантуры Інстытуту літаратуры Акадэміі навук, але пасьля ізноў вярталі.

У адзін дзень 19 кастрычніка 1988 году Бяляцкі стаў сусасна-

вальнікам першай праваабарончай арганізацыі “Мартыралёг Беларусі” і сябрам арганізацыйнага камітэту БНФ. Яму было 27 гадоў.

Алесь Бяляцкі: “Моладзевыя суполкі сталі касьцяком БНФ, і праца па стварэньні палітычнай арганізацыі лягла фактычна на нашыя плечы – юнакоў і дзяўчатаў, якім было ад 20 да 27... Выйсьця не было, таму што структураванага старэйшага пакаленьня перад намі не было”.

Літаральна праз пару тыдняў 30 кастрычніка 1988 году ў Менску адбылося легендарнае шэсьце Дзяды. Бяляцкага тады затрымалі як арганізатара і далі штраф у 200 савецкіх рублёў.

Алесь Бяляцкі: “Гэта шмат было -- паўтары маёй стыпэндыі асьпіранцкай. Праз 3 дні дырэктар інстытута Віктар Каваленка выклікаў мяне да сябе і сказаў: “Алесь, вось Вам грошы, якія інстытут сабраў, заплаціце, калі ласка, штраф. І для мяне гэта было незабыўна. Я як запомні -- і дасюль забыць не магу. Людзі мне дапамагалі”

Алесь Бяляцкі: “Гэта як раз 89-ы год, калі пайшла кампанія з Масквы, што будзем выбіраць усіх дырэктараў. Ну і абвясьцілі выбары дырэктара музэя Багдановіча. Было чатыры кандыдаты. Выбіралі калектывы прычым, і калектыў прагаласаваў за мяне. Я стаў дырэктарам. Усё проста.”

10 гадоў працы ў музэі (з 1989 па 1998) можа найбольш плённы час для Бяляцкага, калі асабістае жаданьне займацца літаратуразнаўствам і творчасьцю ідэальна спалучалася з грамадзка-палітычнымі мэтамі. І гэта працавала:

За першыя пяць гадоў існаваньня з аднаго музэю ўзьнікла чатыры: “Беларуская хатка” на вуліцы Рабкораўскай у Менску, музэй-сядзіба М.Багдановіча ў Ракуцёўшчыне, экспазыцыя ў Яраслаўлі і галоўны будынак музэю М.Багдановіча ў Менску.

Алесь Бяляцкі: “Я сваё дырэктарства ў музэі разглядаў не як месца для адседкі, а як інструмэнт ізноў зьмены сытуацыі ў Менску, у Беларусі...”

Гэты пэрыяд, калі можна было змагацца не “супраць”, а “за”, цягнуўся нядоўга. Алесь кажа, што мы пераацанілі рэвалюцыйны патэнцыял народу – ён хутка пачаўся і хутка скончыўся. Разьвітаньне з верай у непазьбежнасьць дэмакратычных пераменаў было найбольш балючым. Усё зробленае за папярэднія паўтара дзясяткі гадоў, ламалася пад аднаго чалавека. Калі за 10 гадоў да таго, грамадзтва патрабавала стварэньня “Тутэйшых” і БНФ, то ў 1996-м была неабходная арганізацыя, якая б дапамагала кожнаму канкрэтнаму чалавеку абараняць свае базавыя правы. Бяляцкі гэтую патрэбу адчуў хутчэй за іншых, памятаючы пра тое, як у 1988 калегі сабралі грошы, каб аплаціць ягоны штраф. На хвалі рэпрэсіяў падчас масавых акцый увесну 1996 году ён заснаваў праваабарончую арганізацыю «Вясна»:

Алесь Бяляцкі: “Рэальнай дапамогай ніхто не займаўся, трэба было ствараць арганізацыю. Гэта стала зразумела для мяне асабіста, калі падчас аднаго з мітынгаў я проста сабраў грошы для Славаміра Адамовіча і перадаў яго маці. Ніхто больш яму рэальна не мог дапамагчы на той час – ніводная палітычная структура, ніводная партыя”.

Да 2003 году, калі арганізацыя была забароненая беларускімі ўладамі, яна пасьпела стварыць моцную агульнанацыянальную структуру. Нягледзячы на нелегальны статус ва ўласнай краіне – Вясна паўнавартасны сябра міжнароднай супольнасьці праваабарончых арганізацый. Ужо пасьля фактычнага закрыцьця Вясна стала сябрам Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека - - FIDH, а Бяляцкі яе віцэ-прэзыдэнтам.

Адшыхтаваная мадэль незалежнай структуры, ужо ня раз апрабаваная Бяляцкім, хутка адаптавалася да ўмоваў пэрсаналісцкага рэжыму. Вясноўцы назіраюць за выбарамі, навучаюць правам чалавека, дапамагаюць канкрэтным людзям, змагаюцца супраць сьмяротнага пакараньня. Кіраўнік «Вясны» Алесь Бяляцкі прыходзіць у суды, раздае ўлёткі на вуліцах, стаіць у пікетах пры любым надвор’ і і носіць цішотку “Не сьмяротнаму пакараньню”. Гэта і ёсьць ягоны спосаб працы.

У 2006 годзе Вацлаў Гавэл ушанараваў Алеся Бяляцкага прэміяй Homo Homini, якой узнагароджваюць праваабаронцаў з усяго сьвету. У 2008 яе атрымаў кітайскі дысыдэнт і будучы нобэлеўскі ляўрэат Лі Сяобо. Алеся вылучылі на Нобэлеўскую прэмію міру ў тым жа 2006 годзе.

А 3 кастрычніка 2011 году быў заснаваны аргкамітэт па вылучэньні Алеся Бяляцкага на Нобэлеўскую прэмію міру 2012. У яго склад ўвайшлі старшыня БАЖ Жана Ліцьвіна, лідэр руху “За Свабоду” Аляксандар Мілінкевіч, праваабаронца і дысыдэнтка Людміла Аляксеева, прэзыдэнт БНР Івонка Сурвіла, дэпутат Бундэстагу Марылуіза Бек, прэзыдэнт сусьветнай праваабарончай арганізацыі "Freedom House" Дэйвід Крэймэр і іншыя вядомыя і ўплывовыя асобы. Гэты сьпіс пашыраецца з кожным днём.

Алесь Бяляцкі жанаты з гомельскай талакоўкай Натальляй і мае 22-гадовага сына Адама. Натальля працуе выкладчыцай, а Адам скончыў Беларускую акадэмію мастацтваў і атрымаў прафэсію рэжысёра тэлебачаньня. Алесь з гонарам распавядаў пра тое, што сын удзельнічаў ва ўсіх акцыях маўклівага пратэсту і ў сецыве доўгі час блукала ягоная фотка з подпісам “Гэты хлопец першым спыніў машыну на праспэкце”. Калі Алесь ужо сядзеў у СІЗА, Адама затрымалі на адной з акцыяў “Стопбэнзін” і прысудзілі да штрафу.

Зь Бяляцкім змагаліся да апошняга. «Вясну» забаранялі, праводзілі вобшукі, канфіскоўвалі тэхніку, Алеся затрымлівалі на пікетах і мітынгах. І тое, што «Вясна» вымушаная год за годам паўтараць свае патрабаваньні, знаходзячы сабе ўсё больш сфэраў дзейнасьці, – гэта таксама спосаб змаганьня зь ёю.

4 жніўня 2011 году Алеся Бяляцкага арыштавалі. ¨н абвінавачаны ва ўтойваньні прыбыткаў у асабліва буйным памеры (ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса). Міністэрства юстыцыі Літвы і Генпракуратура Польшчы выдалі беларускім уладам інфармацыю пра рахункі Алеся Бяляцкага ў замежных банках. На гэтыя рахункі паступала фінансавая дапамога пацярпелым ад рэпрэсіяў беларускіх уладаў. Алесь можа быць зьняволены на 7 гадоў.

Алесь Бяляцкі прыняў рашэньне застацца ў Беларусі, ужо ведаючы, што трапіць у турму. Так ён сьцьвердзіў права кожнага беларускага грамадзяніна адстойваць свае правы ў сваёй краіне. Гэта абсалютна роўнае спаборніцтва аднаго чалавека і цэлай сыстэмы.

# Хроніка правапарушэнняў

*((( Гарадзеншчына, кастрычнік )))*

8 кастрычніка каардынатара Народнага сходу ў Гародні Юрыя Істоміна затрымалі ў пракуратуры да таго часу, пакуль сход не завершыўся. Яшчэ раніцай Юры Істомін заўважыў, што за ім сочаць каля яго дому некалькі людзей у цывільным. Актывісту прызначылі зьявіцца ў Гарадзенскую абласную пракуратуру па справе арганізацыі Народнага сходу. Супрацоўнікі міліцыі суправаджалі яго да самой пракуратуры, дзе ён і знаходзіўся з 11-ай гадзіны да 14.30.

Адказаць на шэраг пытаньняў міліцыянтаў быў змушаны актывіст Руху "За Свабоду" з Бярозаўкі Сяргей Трафімчык. 7 кастрычніка ён быў затрыманы супрацоўнікамі ДАІ ў Мастах, куды ехаў да свайго сябра. У выніку, паводле санкцыі пракурора, у яго агледзелі машыну, канфіскавалі шэраг інфармацыйных матэрыялаў і затрымалі на нявызначаны час і саму машыну. 8 кастрычніка Сяргей Трафімчык паводле позвы наведаў раённае аддзяленьне міліцыі ў Мастах. Забраныя машина, ноўтбук і іншыя рэчы дагэтуль не вернутыя.

8 кастрычніка па дарозе з Слоніма да Менску быў затрыманы Іван Шэга супрацоўнікамі ДАІ Карэліцкага РАУС. Спадар Шэга планаваў ехаць у Менск на прыватнай маршрутцы, але гаспадару маршруткі загадалі яго не браць. Тады Іван Шэга паехаў на ўласным аўто. Пасля затрыманьня даішнікі пратрымалі яго тры гадзіны і адпусьцілі, не прад'явіўшы ніякіх абвінавачаньняў.



10 кастрычніка у судзе Ленінскага раёну Гародні прадоўжыўся разгляд адміністрацыйнай справы мясцовага праваабаронцы Віктара Сазонава. Напомнім, што Віктар Сазонаў быў затрыманы 23 жніўня ў час раздаваньня жыхарам гораду над Нёманам адмысловых бюлетэняў і ўлётак пра ўтрыманьне за кратамі лідара праваабарончай арганізацыі «Вясна» Алеся Бяляцкага. Судовы разгляд справы суддзёй Ксеніяй Стасюкевіч пачаўся яшчэ 21 верасьня, але быў перанесены ажно на 10 кастрычніка. Урэшце Віктара Сазонава засудзілі да штрафу – ён мусіць выплаціць 21 базавую велічыню.

У кватэру былой актывісткі Маладога Фронту Вольгі Камягінай спрабавалі трапіць няведомыя людзі, а пад вокнамі кватэры стаяў мікрааўтобус зь людзьмі ў цывільным. Пасьля таго, як Вольга Камягіна, якая была дома разам зь дзіцём, пачала тэлефанаваць незалежным журналістам, ціхары зьехалі. Вольга Камягіна нядаўна выклала ў сваім блогу інфармацыю пра тэлефонныя размовы з супрацоўнікам КДБ, які хацеў яе дапытаць з нагоды ўдзелу ў "Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі". Вольга тады адмовілася без позвы ісьці на сустрэчу, якая мела адбыцца ў будынку КДБ.

12 кастрычніка ў Гародні адбылося паседжаньне адміністрацыйнай камісіі Ленінскага раёну, якая аштрафавала маладафронтаўцаў Алеся Кіркевіча і Вераніку Веліігор на 10 базавых велічынь кожнага, што складае ў эквіваленце па 350 тысяч рублёў. Напомнім, што грамадскіх актывістаў затрымалі уначы яшчэ 17 верасьня, калі яны расклейвалі на слупах абвесткі пра маўклівую акцыю пратэсту 21 верасьня. Тады ж міліцыянты забралі ў Веліігор ноўтбук, а ў кватэры Кіркевіча здзейсьнілі ператрус і забралі сістэмны блок.

12 кастрычніка ў судзе Слонімскага раёну адбыўся суд над сябрам мясцовай суполкі БХД Алесем Масюком, адным з удзельнікаў Народнага сходу, які прайшоў у горадзе 8 кастрычніка. Суддзя Тамара Хамінец аштрафавала

# Хроніка правапарушэнняў

*((( Гарадзеншчына, кастрычнік )))*

яго на пяць базавых велічынях паводле артыкулу № 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэньнях.

У Лідзе працягваецца перасьлед сілавымі структурамі журналіста незалежнага тэлеканалу "Белсат" Сяргея Карпенкі. 14 кастрычніка журналіста змусілі здаць адбіткі пальцаў, яго таксама некалькі разоў беспадстаўна затрымлівалі супрацоўнікі ДАІ. Некалькі разоў Карпенку прадстаўнікі міліцыі імкнуліся затрымаць у час здымкаў, нават за горадам. Прыкладам, такая спроба была 6 кастрычніка ў час здымкі каля мясцовай палікленікі, затрымлівалі машыну з журналістам і 8 кастрычніка ў дзень Народнага сходу.

Гісторыя з выдачай Віктару Сазонаву пастановы суду Ленінскага раёну Гародні пра тое, што яго аштрафавалі, дайшла да свайго завяршэньня. Віктар Сазонаў ніяк не мог дамагчыся копіі пастановы суду. У адказ на яго адпаведную заяву 14 кастрычніка была падрыхтаваная такая копія, але выслалі яе чамусьці толькі 20 кастрычніка, калі мінуў тэрмін абскарджаньня прысуду, пра што сьведчыць штамп пошты. Такім чынам дзяржава пазбаўляе грамадзянаў права на абскарджваньне судовых прысудаў.

40 базавых велічынь – штраф такой велічыні мае выплаціць кіраўнік Слонімскай суполкі Партыі БХД Іван Бедка. Судовы працэс вёў суддзя Іван Ластоўскі. Як сьведкі выступілі супрацоўнік ідэалагічнага аддзелу выканкаму і міліцыянт, які затрымліваў актывіста 8 кастрычніка.

19 кастрычніка да Міхаіла Васільева, удзельніка акцыі маўклівага пратэсту, якая праходзіла ў Гародні 3-га ліпеня, без папярэджаньня ўварваліся ў дом судовыя выканаўцы і сталі забіраць маёмасьць. Растлумачылі яны гэта тым, што Міхаіл Васільеў не выплаціў штраф, накладзены на яго за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве суддзём Ленінскага раённага суду Гародні Дзьмітрыем Кедалем. Пры гэтым прадстаўнікі закону не паказалі аніякіх дакумантаў, якія б пацьвярджалі іх паўнамоцтвы, а проста хапалі тое, што маглі хутка вынесці. Спачатку яны паспрабавалі вынесьці лядоўню, але потым абмежаваліся кампутарнай тэхнікай. Патрабаваньні Васільева пакінуць яму хоць якую паперу пра канфіскаванае таксама былі ігнараваныя, як і тлумачэньні, што аштрафаваны сам шукаў магчымасьці сустрэцца з судовым выканаўцам, каб высьветліць, як ён можа часткамі выплачваць штраф. Тады яму адказалі, што менавіта той выканаўца ў адпачынку.



У ноч з 26 на 27 кастрычніка была зьдзейсьнена правакацыя ў дачыненьні да грамадскага праваабаронца з Гародні Рамана Юргеля. Прыблізна ў гадзіну ночы ў дзьверы яго кватэры пазванілі. Калі Юргель запытаўся хто там, яму жаночы голас адказаў, што здзейсьнены напад. Жанчына, не прадставіўшыся, заявіла, што яна супрацоўніца міліцыі і просіць адчыніць дзверы, каб праз хатні тэлефон выклікаць "своих ребят – сотрудников милиции, чтобы они разобрались". Раман Юргель не паверыў такому тлумачэньню і прапанаваў жанчыне пазваніць таксама ў дзьверы іншых суседніх кватэраў. Пасьля гэтага невядомая асоба адразу зьнікла.

27 кастрычніка кіраўніка слонімскай суполкі БНФ Іван Шэгу выклікалі ў аддзяленьне ДАІ Слонімскага РАУС, дзе аштрафавалі на 35 тысяч беларускіх рублёў за тое, што ён нібыта 8 кастрычніка, едучы з Слоніма ў Менск, размаўляў праз мабільны тэлефон.

# Беларускі час

***Праходзячы вечарам 29-га кастрычніка ля вежы Гедыміну ў Вільні я пачуў рускую мову з выразным беларускім акцэнтам. Надрывалася адна з кіраўнічак нейкай турыстычнай групы. Старалася, каб усе яе пачулі: – Заўтра сняданак у дзевяць гадзін па літоўскім часе, – намагалася яна перакрычаць гул вячэрняга гораду і крыху падпіты, і з тае прычыны нарэшце свабодныя і вясёлы настрой беларускіх турыстаў. – Не забывайцеся. Па літоўскім часе. Па літоўскім, – беспераcтанку падкрэслівала яна. – Яны сёння пераводзяць гадзіннікі на зімовы рэжым. На гадзіну назад. Як у Еўропе. Як і мы раней. Зараз мы не пераводзім. Як у Расіі. Таму не перablытайце час, бо там не мы адны такія.***

Спачатку я ўвогуле здзівіўся ўбачыць сваіх рускамоўных суайчыннікаў ля вежы Гедыміну. Звычайна там з Беларусі збіраецца публіка выключна беларускамоўная. Рускамоўных жа беларусаў больш цікавяць крамы. Вялікія такія, нашмат большыя ад тае вежы. Але крыху пазней зацікавіла тое, што турысты ўвогуле не слухалі сваю кіраўнічку, і выглядала ўсё так, нібыта заўтрашні дзень іх увогуле не цікавіць. Усе размаўлялі паміж сабой на тэму, дзе і як яны сёння правядуць гэты вечар. І толькі адзін, сумны і цалкам цвярозы перапытаў: – Па літоўскім часе будзе раней, ці пазней чым па беларускім?

Твар кіраўнічкі групы выцягнуўся ў разгублены пытальны знак і застыў. Пасля яна схамянулася, выйшла з стану разгубленасці і адказала. Адказала правільна. Але і мне, і ёй, і чалавеку які спытаўся, ужо быў зразумелы стан яе першапачатковай разгубленасці. Нечаканым для яе стаў зварот слоў “беларускі час”. І яна задумалася, а што гэта такое “беларускі час”.

Так. Мы згубілі ўжо і свой час. А ён у нас быў. Была рэальная незалежнасць, нацыянальная сімволіка, адзіная дзяржаўная беларуская мова. Была адчыненая мяжа ў Польшчу, калі каб яе пераехаць, трэба было набыць толькі ваўчар. Былі адчыненыя дзверы ў еўрапейскі свет, еўрапейскую эканоміку, цывілізаванае грамадства... І быў свой беларускі час. ¨н на гадзіну адрозніваўся ад маскоўскага, і на гадзіну ад польскага. Мы займалі выключна сваё месца паміж Польшчай і Расіяй на еўрапейскай мапе нашай планеты.

Мы цешыліся сваім месцам. Бо яно было нашае, і найлепшае.



Добра памятаю той момант, як у нас узнік свой беларускі час. Узнік як свой уласны гістарычны шанец. Мы радаваліся з таго, што больш не жывём па часе маскоўскім. Што нарэшце надышла гістарычная справядлівасць, і мы вярнуліся ў Еўропу з сваім нацыянальным і гістарычным набыткам і сваім часам. Мы вярталіся на сваё гістарычнае месца ў развіцці чалавецтва і думалі, што наша краіна ўжо не збочыць ніколі з гэтага шляху.

На жаль, не ўсе цешыліся з нашага шчасця. І мы, пасля таго, як адзін нейкі важны памежны слуп на мяжы Беларусі і Расіі быў сімвалічна знішчаны, сталі пакрыху губляць усё, чаго стагоддзямі дамагаліся лепшыя сыны і дочкі нашай нацыі. Наша сімволіка стала незаконнай. Наша мова занядбанай. Дзверы ў Еўропу для нашых грамадзян зноў зачыніліся. А зараз мы згубілі і свой час.

У Расіі вырашылі не пераводзіць стрэлкі гадзіннікаў на зімовы час. Расія вялікая. Можа ім гэта і патрэбна. Але хто ў нас спытаўся пра тое? Якія даследзіны правялі беларускія энергетыкі, медыкі, эканамісты? Дзе іх вынікі? І хто вырашыў, што ў нас павінна быць як у Расіі, а не як у Еўропе?

Перавод, або не перавод гадзіннікавых стрэлак стаў пытаннем выключна палітычным. А мы сталі ўсяго толькі яшчэ адным “часовым поясом” расійскай прасторы. Менталітэт беларусаў, які за гады незалежнасці вельмі моцна ўзмацніў і павысіў свае нацыянальныя прыярытэты зноў стане суадносіць наш час з расійскім, а не з еўрапейскім.

Але ні еўраазіяцкай ідэалогіяй, ні пераводам гадзіннікаў, гісторыю перавярнуць нельга. Гадзіннікі вечнасці адлічваюць яе кожную хвіліну па-свойму. Спробы ім перашкодзіць толькі ўмацуюць дух беларусаў і прагу беларускай нацыі да незалежнасці і волі. А цяперашнія настроі беларускага грамадства, моц і самаахвярнасць лепшых прадстаўнікоў нашага народа сведчаць пра тое, што беларускі час, час новага беларускага адраджэння ўжо пачаўся.

***Віктар Сазонаў***

# Воўчыя законы

**Беларускае грамадства падышло ўжо да той мяжы развіцця, калі вызначальнымі і асноўнымі яго рысамі стануць зайздрасць, варожасць і нянавісць. Наўкола пануе прынцып, сфармуляваны яшчэ старажытнымі, “homo homini lupus est” – “чалавек чалавеку воўк”. Нядаўні прыклад з жыцця. Пасля няшчаснага выпадку і цяжкай траўмы памёр адзін з працаўнікоў аднаго з гарадзенскіх прадпрыемстваў. На наступны ж дзень пасля пахавання калегі узламалі яго працоўную шафку з мэтай “пажывіцца” непатрэбнымі ўжо рэчамі. Няма слоў...**

Крылатае выслоўе казачных герояў Рэдзьярда Кіплінга “мы з табой адной крыві” у варунках беларускіх “джунгляў” не спрацоўвае. Беларусы (дарэчы, у адрозненне ад шавіністычных расейцаў) у вялікай сваёй колькасці ненавідзяць якраз сваё – родную мову, прыроду, гістарычную спадчыну, урэшце суайчыннікаў. Тое, што выробляе ўлада ў Беларусі з сваімі грамадзянамі, можна параўнаць толькі з акупацыйным рэжымам, які бязлітасна распраўляецца з кожнай праявай іншадумства і адхілення ад генеральнай лініі дзяржаўнай палітыкі. Людзей хапаюць на вуліцах, збіваюць, цягаюць у міліцыю і пракуратуру. Усё гэта праходзіць незаўважна для бальшыні насельнікаў краіны. Той бальшыні, якой абыякава, што робіцца несправядлівага і ганебнага ў дзяржаве, наўкола яе, у цэлым свеце. Нават пагроза пабудовы расейскай атамнай станцыі, якая, калі стане рэальнасцю, абавязкова прынясе непапраўную бяду нацыі, не зварухнула насельніцтва, якое ўжо пацярпела так страшна ад Чарнобыльскай катастрофы. Гэтая абыякавая бальшыня не хоча нічога бачыць і чуць пра праблемы краіны, грамадства, суседзяў, бліжніх. Парадаксальна, але насамрэч яны не хочуць думаць і пра сябе, жывуць адным днём.

А калі на грамадскіх акцыях бачыш вялізную армію розных “ахоўнікаў парадку” – у форме і цывільным, міжволі заўважаеш выраз іх твару: некаму зверху дастаткова аддаць загад – і яны будуць не проста біць, выкручваць рукі, а катаваць па-садысцку і з асаблівай жорсткасцю. І ўрэшце



забіваць. Калі пачынаецца тэрор, яго спыніць неймаверна цяжка. Найбольш яскравым гістарычным прыкладам тут бальшавікі ў Расеі, якія залілі крывёй не толькі сваю краіну, але і прынеслі амаль на цэлае стагоддзе каласальную бяду многім шматлікім суседнім народам.

Прыходзіць час, уводзімыя воўчыя законы спрацоўваюць і ў адваротны бок. Не капай на каго ямы, бо сам уваліўся – кажа нам народная мудрасць. Так яно ўрэшце і здараецца – як з асобнымі людзьмі, так і з прадстаўнікамі кожнага ўладнага клану, які забываецца пра асноўныя прынцыпы чалавечых дачыненняў, пераступае той парог, за якім толькі нянавісць, зло і цемра.

Асабіста мяне здзіўляе, але ўжо ў бок захаплення, і іншая частка нашага грамадства. Гэта тыя, што церпячы маральныя страты і фізічныя пакуты, не жадаюць жыць па воўчых законах, не баяцца гаварыць праўду, не могуць маўчаць нават у сама цяжкім становішчы, усяляк імкнуцца і стараюцца дапамагчы іншым. Такіх людзей таксама шмат і яны выяўляюць апошнім часам сябе ў розны спосаб. Прывяду тут яшчэ адзін свежы прыклад. У адным з гарадоў Берасцейшчыны да хлопца, на якім была апранута кашулька з выявай палітвязня Алеся Бяляцкага падышла старэнькая бабулька і запыталася: ці не Хрыстос гэта ў яго на адзенні. – Так! – адказаў малады чалавек. І, пры ўсёй гратэскавасці сітуацыі, ён блізкі да ісціны. Бо той, хто выступае за праўду, выступае на баку Хрыста, ёсць яго адданым салдатам. Праваабаронца Бяляцкі мог з’ехаць у якую Нарвегію ці Швецыю і спакойна там жыць і нават прыносіць карысць для Беларусі. Але ён свядома выбраў для сябе іншы шлях – куды цяжэйшы. На пакутлівым шляху палітыкі Андрэй Саннікаў і Мікола Статкевіч, Зміцер Дашкевіч і Зміцер Бандарэнка, якія не парушылі ні юрыдычных, ні маральных нормаў, дзеілі негвалтоўнымі метадамі і былі з той часткай беларускага грамадства, якая не можа і не хоча жыць па дзікіх воўчых законах. Той часткай, якая і мае права “людзьмі звацца”, звацца народам.

Уладзімір Хільмановіч

## *Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на лістапад 2011 году*

**1 лістапада**
У лацінскім абрадзе сьвята Усіх Сьвятых.
10 гадоў таму (2001) – У Слоніме памёр Мікалай Варвашэвіч, беларускі тэатральны рэжысёр, заснавальнік Слонімскага беларускага драматычнага тэатру. Пахаваны ў Сьвіслачы.

**2 лістапада**
Дзяды, дзень памінаньня памерлых.

5 лістапада
435 гадоў таму (1576) – Кароль Стафан Баторы пацьвердзіў Гародні ўсе прывілеі.

**10 лістапада**
100 гадоў таму (1911) – У в. Нёман (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Станіслаў Сьвірка, беларуска-польскі літаратуразнавец, фальклярыст.
90 гадоў таму (1921) – У Смургонях нарадзіўся Віктар Роўда, беларускі харавы дырыжор, педагог.

**12 лістапада**
215 гадоў таму (1796) – У в. Гожна (?, Беласточчына) нарадзіўся Міхал Рукевіч, удзельнік вызвольнага руху, філямат. На пач. 1820-ых жыў у Мількаўшчыне (Гарадзенскі р-н).

**13 лістапада**
120 гадоў таму (1891) – У в. Рудніку (цяпер Пружанскі р-н) нарадзіўся Іван Саланевіч, спартовец, публіцыст, выдавец. Заснавальнік у Гародні спартовага таварыства "Сокал".

**16 лістапада**
Дзень Маці Божай Вострабрамскай – апякункі Беларусі.

**17 лістапада**
105 гадоў таму (1906) – У в. Гібінята (Ашмянскі пав., цяпер Валожынскі р-н) нарадзіўся Янка Багдановіч, беларускі пісьменьнік, мемуарыст, вязень савецкіх канцлягероў. Выхоўваўся ў Барунскім дзіцячым прытулку.

**19 лістапада**
25 гадоў таму (1996) – З станцыі Яцукі (Дзятлаўскі р-н) адпраўлены эшалён з апошняй ракетай "Тополь". Беларусь стала бязьядзернай дзяржавай.

**23 лістапада**
145 гадоў таму (1866) – У Кракаве памёр Адам Кіркор, беларуска-польскі гісторык, этнограф, археоляг, публіцыст, грамадзкі дзеяч.

**26 лістапада**
120 гадоў таму (1891) – У в. Арляняты (Смургонскі р-н) нарадзіўся Янка Станкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, мовазнавец, гісторык, перакладнік, выдавец, публіцыст, пэдагог, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**27 лістапада**
Нацыянальны Дзень Герояў. У 1920-ым годзе пачалося антысавецкае Слуцкае паўстаньне (доўжылася да 28 сьнежня 1920 году).
90 гадоў таму (1921) – У в. Клешнякі (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Уладзімер Тарасевіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч беларускага замежжа (ЗША).

**29 лістапада**
185 гадоў таму (1826) – У Вільні памёр Вікенці Герберскі (нар. у Слоніме у 1784), медык і пэдагог.

**30 лістапада**
40 гадоў таму (1971) – Памёр Уладзімір Корбан, беларускі пісьменьнік, байкапісец, перакладнік. У 1946-48 жыў і працаваў ў Лідзе.
20 гадоў таму (1991) – У в. Мядзьведзічы (Ляхавіцкі р-н) памёр Вацлаў Пянткоўскі, каталіцкі сьвятар, асьветнік. Перад другой сусьветнай вайной служыў прэфэктам наваградзкай гімназіі.



**Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя»**
**выходзіць 1 раз у месяц**
**наклад 299 асобнікаў**
**для нутранога карыстаньня**

**падрыхтаваны да друку: кастрычнік 2011 году**
**e-mail:prezumpcyja@gmail.com**
**распаўсюджваецца задарма**
**пры перадруку спасылка абавязковая**

